# „МАЛАНКА“

## ЧАСОПІСЬ ГУМАРУ, ЖАРТАЎ І САТЫРЫ.

# 1928.



Рэдакцыя „МАЛАНКА“ Вільня, Гэтманская вул. № 2.

Друк. Крайнэс і Кавальскі Вільня, Вялікая 39.

ГОД ВЫДАН. III. Przesyłka poctzowa opłacona ryczałtem ЦАНА 30 ГРОШ.

# Маланка

ЧАСОПІСЬ ГУМАРУ, ЖАРТАЎ І САТЫРЫ

31. V. 1928 „МАЛАНКА" СМАЛІЦЬ·ШТО·ДВА·ТЫДНІ! № 7

... 6. Беларускія паслы Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Мятла і Валошын засуджаны на 12 гадоў; рэшта засуджана ад 3-х да 8 гадоў цяжкага вастрогу. (*З газэт*).

... „Zaznaczyć musimy, że wyrok wypadł względnie bardzo łagodnie...

... „Sędziowie nasi, postępując zgodnie z literą prawa, mogli zawyrokować dożywotne więzienie. Nie uczynili tego —wrodzone Polakom uczucie ludzkości, nakazało im obniżyć normy kary".

„**Dziennik Wileński**"
23. V. 28 г. № 116.




**Польскі эндэк**: Ха-ха-ха!.. На дванаццаць гадоў!.. Хі-хі-хі!.. Не дарма пан пракурор казаў, што „шатан сьмяецца і рукі паціраe"... Іх-ха-ха-ха! Ну і як-жа не сьмяяцца... на дванаццаць гадоў... кха... кха.. кха!.. Эх, каб Бог даў, яны нашаму Обсту пад руку папаліся... хэ-хэ!..



# Ня ўсе дома.

Мы ад дзеда аж да ўнука,
Як дзе бачым, што ня так,
З вечнай тычымся навукай,
І гаворым, хоць няўзнак, —
Ці сваёму, ці чужому:
„Ня ўсе дома, ня ўсе дома!“

Знаў хлапца, Арцёмам зваўся,
Меў тады семнаццаць год;
Бедзен, нерахман здаваўся,
Кемкі-ж быў, каб яго звод!
А плялі ўсе на Арцёма:
„Ня ўсе дома, ня ўсе дома!“

Ад стыдлівасьці ён нейкай
Да карчмы ня знаў дзе сьлед;
За апошнюю капейку
Купіць кніжак ці газэт.
І тут валяць на Арцёма:
„Ня ўсе дома, ня ўсе дома!

Вось сабе дзяўчыну мае, —
Стаў вяселейка спраўляць;
Беднавата „маладая“,
Гаспадыня-ж — пашукаць!
Тут ізноў ўсе на Арцёма:
„Ня ўсе дома, ня ўсе дома!“

Стаў жыць з жонкай удваёчку
Працавіта небарак —
На сям‘ю сваю дзень, ночку,
Як мурашка, проста так...
А ўсе валяць на Арцёма:
„Ня ўсе дома, ня ўсе дома!“

Вось і ў школу ходзяць дзеці, —
Кожны чыст, абмыт, абшыт,
Сам ня хвор і лапці ўзьдзеці
І заціркаю быць сыт.
І тут валяць на Арцёма:
„Ня ўсе дома, ня ўсе дома!“

Сходзяць годы за гадамі,
І Арцёма хоць на „ўра!“
Ен з сынамі, як з дубамі,
Статак, коні, моц дабра!
Аж сягоньня на Арцёма
Штось ня кажуць: „ня ўсе дома!“

**Янка Купала.**



Архівар... (ыюсу) праф. Студніцкаму з прычыны яго бязглуздых нападаў у часе нядаўнага працэсу „Грамады“ на вядомага беларускага дзеяча Антона Луцкевіча, гэту байку пасьвячае

*„Маланка“*

## Сава, асёл ды сонца.

Сава лятала па начы,
З сабою птушкам сьмерць насіла,
Хаўтурны сьпеў ім пяючы, —
Сама там драла іх, сама-ж і галасіла,
Ды так ня ўбачыла, як нахапіўся дзень
І сонца яркага прамень
Дарэшты асьляпіў ёй вочы.
Сава ўцячы тут хоча,
Ды толькі вось ляцець ня можа,
А блізка тут няма дупла нідзе,
Заплакала сава ў бядзе, —
Ну хто-ж саве паможа?
На шчасьце ёй тут лёс паслаў
Знаёмага асла.
І кажа ён: „Ня плач, сястрыца,
Ды надта не бядуй, —
З бяды мы вырабімся самі,
І сонцу нам ня прыдзецца скарыцца:
Я вушы доўгія на сонца навяду
Ды засланю яго вушамі.
Як цемра ўсю пакрые галу,
Як зьгіне прыкрае сьвятло,
Дык ты й ляці сабе ў дупло
Тады памалу“.
І наш асёл за працу ўзяўся шчыра:
Як можна, вушы свае шырай
Ён растапырыў, распрастаў
І процi сонца стаў.
Калі-ж налева глянуў коса,
Сьвятла там яркая палоса.
Ён — гоп! у левы бок,
Пасьля глядзіць—сьвятло і справа,
Тады назад ён — скок!
Нарэшце бачыць—дрэнна справа:
Скакаў, скакаў, і ўжо насілу ходзіць,
А сонцу ўсё ніяк ня шкодзіць,
Ні каплі не памог саве,
А вочы пасьляпіў сабе.
І вось аслу тады тут ясна стала:
Каб сонца засланіць—вушэй асьліных мала.

**Крапіва.**

●●●●

### СКУПЫ МУЖ.

— Ну, і скупы-ж мой муж!

— А што?

— Ды як-жа ж... Учора, калі ён уночы вярнуўся, знайшла я ў яго кішані для сябе падарунак: жаноцкую панчоху, але — толькі адну! І то ўжываную...

●●●●

## Даўней і цяпер.

*Прысьвячаю О. Я.*

Ідзеш па вуліцы навокал,
Каля цябе плывуць жанчыны,
Кідаеш вокам нібы сокал;
І... бачыш лялькі-манэкіны.

Ажур-панчошкі целам пахнуць...
Парфума едкая нясецца,
А вочкі—так і клічуць, лашчаць;
Ў іх хуць відаць, ці мне здаецца.

Усё наверху... кармін на вуснах
О, гора! — каго пацалуюць
На шчочках пудры сколькі? — гнюсна
Яе пудамі камсумуюць.

Але даруйце! — гэта мода:
Усё наверх, ўсё для пакаэу
Трэба выйсьці сьмела, годна,
Каб ўсе ўсё бачылі адразу.

Кандыдаткі... не на маткі!
Сьцеражы Бог ад думкі гэтай,
Гэта рэвія-рэклямка;
Злавіць... багатага з монэтай...

І дзіўна рэч! — Даўней, бывала,
Прыгожасьць бачылі ўсе ў твары,
Дзяўчына ўсю сябе хавала;
Сёньня-ж судзяць па *твары.*

Яшчэ дзіўней—так мне здаецца—
Даўней каханьня ўсе шукалі,
Сягоньня-ж ўжо ці давядзецца
Яго знайсьці—яно прапала.

Даўней замер быў не на сьмешку,
Сёньня-ж ёсьць адно ўжо *мэта*:
Даўней лічылі чалавекам,
Сёньня-ж лялька, цацка гэта.

Віна тут, бачыце, такая;
Яна плывець із хуці нетраў.
Даўней з твару аглядалі —
Сёньня судзяць ўжо а retro.

Хто вінават—судзеце самі—
Ажур-панчошкі, кармін, пудра,
Тое, што ёсьць у кожнай маткі,
Вам імя адно: — лахудра!..

*Міт.*

●●●●

### ДАЮЦЬ ПАСАДЫ.

Безработны выходзіць з „Бюра Працы“ і гнеўна абураецца:

— Завецца „Бюро Працы“, а працы нікому не даюць.

— Як нікому?! — спыняе яго „возьны“ (кур'ер), — надовечы сястра, швагер, пляменьнік і яшчэ пара сваякоў пана начальніка працу дасталі... А я! А начальнікавы каханкі... А ты мелеш, што ніхто!..

*Я. М.*

### ПРЫЧЫНА.

— Чуў, выдумалі новае лякарства ад п'янства?

— Але, карысны вынаход, шмат дабра прынясець людзям.

— Але, але! Я таксама кажу, а дзеля гэтага пайдзем вып'ем!

— Хадзем!

●●

### ПАЗНАЦЬ АДРАЗУ.

— Кім будзе ваш сынок, як вырасьце?

— Эс-эрам.

— Гм... А скуль вы перакаканаліся.

— Ён навет цяпер ніколі сваіх валасоў ня чэша.

●●

### БЕЛАРУСЬ РАСЬЦЕ!

Паны вядуць гутарку паміж сабой:

— Чорт ведае гэтых беларусаў!.. скуль яны бяруцца?

— Як скуль?!

— Яшчэ пяць гадоў таму назад мы казалі, што ўсіх беларусаў можна пасадзіць на адну лаўку, а...

А сёньня?

— А сёньня насадзілі іх поўныя вастрогі, а яны ўсё ёсьць і ёсьць...

●●

### ДЗІЦЯЧАЯ ЛЁГІКА.

— Татачка, ці Амэрыка большая за Польшчу?

— У некалькі дзесяткоў разоў, сынок.

— Вось-жа, мусіць, там паліцыі шмат!...

*Я. М.*

●●

### АДКАЗАЎ.

*Жабрак*: Прашу ласкі пані даць мне што-небудзь зьесьці.

*Пані*: Пачакай крыху, зараз прыдзе мой муж.

*Жабрак*: Дзякую, я людзей ня ем.

*„Зиз“*

●●

### У СУДЗЕ.

*Судзьдзя*: Скажэце мне, пашкадаваная, у якім месцы быў у вас залаты гадзіньнік.

*Пані*: Гадзіньнік, пане судзьдзя, быў на ланцужку і вісеў у мяне за пазухай.

*Судзьдзя*: Дык чаму-ж вы ня чулі, як абвінавачаны засунуў туды руку за гадзіньнікам?

*Пані*: Я чула, пане судзьдзя, але думала, што ён з добрымі намерамі.

*К. М.*

●●●●

# Люксус XX-га стагодзьдзя!..



*Рыс. Язэп Горыд.*

**Першы пан:** Даўней цар сваіх арыштантаў гнаў у Сыбір пехатой, а мы, бачыце, перавозім беларусаў у адумысных самаходах і цягніках...

**Другі пан:** О, не да параўнаньня, — Заходняя культура шпарка ідзе наперад!

А. Сержпутоўскі.

## Багаты пан.

Ня той багаты, хто мае многа ўсялякага дабра, а той, хто вельмі дужы ды здаровы. Часам дурныя кажуць, што абы грошы, дык і здароўе будзе. — Не, мабыць, трасца табе, а не здароўе будзе за грошы! Пэўне, так ужо суджана, што багатага ды заможнага заўсёды якая-небудзь хвароба цісьне, а бедны — заўсёды дужы дый вясёлы.

Гэтак вось, кажуць, жыў даўней адзін багаты пан. Меў ён столькі ўсялякага дабра, што і палічыць ня мог. Жыў ён у роскашы і ў выгадзе, ня знаў ніякае бяды, ня меў ніякага ліха. Адно толькі грызла яго, грызла і не давала ані есьці, ні спаць. Грызла яго тое ліха, што калі добра, хочацца яшчэ лепш, а тут нельга нічога лепшага прыдумаць.

Вось і пачаў той пан сохнуць ды петрыць, што ад дабра нельга найці дабра.

Неяк раз, ідзе сабе пан каля сваіх палацаў, ідзе вельмі засумаваны, аж бачыць ідзе нейкі бедны чалавек. Увесь ён чорны, абарваны ў лапіклах. Ідзе ды песьні пяе, аж панскі сад разьлягаецца.

— Чаму ты пяеш?—пытае пан.

— А вось пяю, бо здароў і весел.

— А чаго-ж ты весел, калі ты такі бедны?

— А якога-ж мне больш ражна трэба? Сёньня я наеўся бульбы, а заўтра буду мець і хлеб з салам, бо зарабіў крыху грошай.

— Ці-ж ты таму пяеш, што здароў і наеўся?

— Не, я пяю таму, што хоць і кепска жыць на сьвеце, але пажыву, дык мо' і лепш будзе?!.

Сказаў гэта бедны чалавек і пайшоў далей, пяючы песьні. А багаты стаіць і думае:

— Уся бяда ад багацтва; — вось аддам людзям частку свайго дабра, дык можа і лепш будзе.

Падумаў ён так ды давай крычаць:

— Гэй, чуеш, вярніся! — маю да цябе справу.

Вярнуўся бедны чалавек. Пан тады дастаў з кішаня капшук, поўны грошаў і дае беднаму:

— На, вазьмі гэтыя залатоўкі,— дык табе будзе добра і мне лепш.

Падзякаваў бедны за грошы і пайшоў сабе далей, а пану і запраўды лягчэй стала. Усьцешыўся ён, што хоць раз зрабіў добры ўчынак.

Але нядоўга цешыўся пан. Як толькі прыйшоў да свайго палацу, адразу апанаваў яго такі жаль, — шкода яму тых грошай, што аддаў беднаму. Ходзіць пан, як у ваду апушчаны, сумны, як пад зямлёй. І чым далей, тым гарэй пачаў бедаваць пан. Сумна яму ды так моташна, што хоць бяры ды павесься.

А тут яшчэ прышло ў галаву пану: што будзе з яго багацьцем, як ён здырдзіцца?

— Як-бы гэта зрабіць,—думае пан,—каб і па маёй сьмерці самому ўладаць сваім дабром?!

Думаў ён, думаў, дый надумаўся: зрабіў ён у клеці пад памостам склеп, прыладзіў да яго такія дзьверы, што ніхто й ня ўцяміць.

Паскладаў пан у той склеп усе свае грошы і ўсё тое, што было ў яго самае дарагое.

Ходзіць пан у той склеп штодзень, дый усё любуецца на свае дабро

### ЗВАР'ЯЦЕЎ.

У ўдавы Паўліны захварэў адзіны сын. Доктар пытаецца:

— Якія азнакі хваробы?

— Ён блюзьніць, кідаецца, — плача матка.

— А што ён перад тым рабіў?

— Днём быў на полі, а вечарам прышоў дамоў, прычытаў вось гэту газэту і раптам пачаў...

— Ну, значыць, звар'яцеў, сказаў доктар, глянуўшы на газэту.— Гэта быў апошні нумар спадаровага „Народу“.

*Д.*

### У БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ.

Вучыцель Сьвінавух пытаецца на экзамене:

— Што вы знаеце пра караля Сьцяпана Баторага?

— Гм... Сьцяпана Баторага... Сьцяпан Баторы забараніў прыймаць беларускіх матурыстаў у свой Унівэрсытэт у Вільні...

*Ч.*

*Ці маеце камплект „Маланкі“ за 1927 год?*

## На свой аршын.




### Ваявода з „Крэсаў“ за граніцай.

**Немец**: У нас, у Бэрліне, выходзіць больш тысячы розных газэт і часопісяў...

**Ваявода з Крэсаў**: Столькі? О, Божа! — Ну, пэўне, і... конфіскуюць?!.

Аднаго разу зайшоў пан у склеп, ды нядобра зачыніў дзьверы. Тымчасам, падняўся вялікі вецер, што як стукнуў дзьвярмі, дык яны гэтак шчыльна зачыніліся, што пан ня мог з склепу вылезьці.

Сядзіць пан у склепе дый падыхае з голаду. Прабаваў крычэць, дый ніхто яго ня чуе.

Пазнаў тагды пан, якая вартасьць грошам і ўсялякаму багацьцю, калі няма людзей, калі таго багацьця нікому ня трэба. І рад быў-бы пан зрачыся свайго багацьця, але ня можа з склепу вылезьці.

Сядзіць ён і ня ведае, што парадзіць, аж бачыць: усе яго грошы і ўсё яго дабро абярнулася ў чалавечы пот і кроў. Падніmaецца кроў з потам усё больш і больш. Вось ужо даходзіць яна багачу па самае горла, вось, вось захлісьнецца ён у чалавечай крыві...

Сабраў пан апошнія свае сілы, ды як крыне. І чуе пан, што нехта адклікнуўся і адчыняе дзьверы. Усьцешыўся пан, так усьцешыўся, як яшчэ ніколі, як пачуў надзею, што яшчэ мо' пажыве крыху на сьвеце, мо' зірне на яснае сонейка.

Тымчасам пачаў бедны чалавек разьбіраць памост, каб асlабаніць пана.

Гэта быў, бачыце, той самы бедны чалавек, якому пан даў капшук з грашмі. Як толькі адтрымаў ён ад пана тыя грошы, пачаў жыць неспакойна. Ідзень, і ўночы ўсё думаў, каб хто ня ўкраў грошай, або не забіў яго. Ня есьць, ня п'е, а ўсё думае, каб ня згубіць грошы. Годзі пець песьні, годзі весела жыць! Ссох за тыя дні, але нарэшце дагадаўся, што бяз грошай лепш. Як толькі дагадаўся, схапіў той капшук з грашмі, дый папёр пану назад. Прынёс, а пана няма. Пачаў пытацца ў людзей, а тыя ня ведаюць, што адказаць; жартуюць:

— Што, можа чорт на форму ўхапіў? Быў, кажуць, у палацы і раптам ліха ведае куды дзеўся.

Стаіць бедны чалавек, дый чэша чупрыну. Раптам пачуў, нібы з-пад зямлі, нейкі голас. Пазнаў ён тады пана па голасе і пачаў яго ратаваць. У момант раскідаў памост і выцягнуў пана.

А пан ледзь жывы і просіць есьці. Дастаў бедны чалавек з торбы печаную бульбу і скарынку чорнага хлеба. Як убачыў гэта пан, накінуўся, як галодны воўк, і есьць, аж за вушмі трашчыць.

Пасілкаваўся крыху пан і пачаў дзякаваць.

— Няма за што дзякаваць, — адказвае бедны чалавек. — Вось табе, дзякую за твае грошы, — маеш іх назад!..

Працягнуў тады бедны чалавек руку з грашмі, а багаты, як убачыў, аж затросься са страху, ды як закрычыць на ўвесь голас:

— Гэта чалавечая кроў ды як пот!

Сказаў гэта пан, ды давай бегчы ад грашэй наўцёкі. Бег, бег пан і са страху ўскочыў у студню. Пакуль зьбегліся людзі ды пачалі ратаваць пана, дык ён ужо й заліўся.

Кінуў тагды бедны чалавек у тую студню капшук з грашмі, а сам сабе пайшоў вясёлы, як і раней, пяючы песьні.

І пазналі людзі, што дзе багацтва, там—шчасьця няма, што багаты — праз сваё багацтва гіне...

*Казкі і апавяданьні Беларусаў-паляшукоў.*

Фэльетон Б. Самсонава.

# Змаганьне з курэньнем.



...Куру я быццам зьвер.

Трэба прызнацца, таварышы, што куру я быццам зьвер, або конь які.

Брыдасьць, ды толькі!

У людзей усюды, дзе трэба, ці ня трэба, *рацыяналізацыя*, чыстка апарату, а я забруджваю народную маемасьць — лёгкія. За гэта і са службы, кажуць, хутка выганяць будуць!

Бяручы гэта пад увагу, я ўзяў карту парады і пайшоў у „*Наркодиспансер*“ *).

Выкурыў на разьвітаньне адразу дзьве папіроскі — і ўваходжу.

Вялізная саля... На лаўцы сядзяць, быццам арыштанты, таварышы па цяжкай немачы. На сьценках няпрыемныя абразкі.

— Не пачалося яшчэ?

— Не выглядае, што й пачнецца.

Таварышы ўсе маркотныя, сумныя. — Курыць, разумеецца, таварышы хочуць. Хто мятныя цукеркі смокча, хто сьлінкамі забаўляецца.

Праз паўгадзіны, а мо' і болей, выходзіць лысы доктар у белым фартусе і ставіць на стол слоік з нейкай брыдой. Паставіў і пачаў дакараць. Амаль гадзіну дакараў.



— Ганьба! — кажа.

— Атрута, — кажа. — Ганьба, — і гэтак далей. Усіх дакарыў, сум усім нагнаў. А пасьля загадаў:

— Кідайце! — кажа. — Кідайце зараз-жа! Вымайце, — кажа, — тытун і папіроскі і кідайце к чорту!

Гляджу — усе палезьлі па тытун. Палез і я. Хацеў папрасіць дазволу закурыць на астатак, але пастыдаўся.

— А куды кідаць? — пытаюся.

Тут, раптам, скульсьці зьявіўся нейкі чалавек у фартусе і голасна заявіў:

— Кідайце сюды, грамадзяне, у фартух. Кідайце без абману ўсе, як ёсьць.

Сталі кідаць...

— А сернікі?

— Сернікі — дабравольна. Але вельмі пажадана.



...Кідайце, кажа, без абману...

Накідалі яму ўсенькі фартух, аж да вусоў.

— Ці ўсе кінулі, грамадзяне?

— Усе! — адказваем.

Забраў ён „атруту“ і выйшаў.

Доктар выцер лысіну і кажа:

— Ну, цяпер, грамадзяне, забудзьцеся і думаць пра тытун. Вітаю вас з вылячэньнем. Можаце сабе ісьці.

І стала, ведаеце, нек лягчэй. Аб тытуне і думаць забыліся. Выходзім у калідор. Глядзім — чалавек у фартусе складвае нашы папіросы ў фанерную жоўтую скрынку, а сам, нягоднік, курыць, і навет не абы што, а „Пасольскія“!

Нюхнуў і я пасольскіх і, разумеецца, абурыўся:

— Гэта нясумленна з вашага боку, таварыш!

— Нам, — сьмяецца, — курыць можна. Мы няхворыя, а пэрсональ...



...Мы ня хворыя, а пэрсональ!..

Вось і здыкай тут!

Плюнуў я ў плявачку і выходжу абураны на вуліцу. А на вуліцы, Божа ты мой! Тузіны са два гандляроў з папіросамі.

— Купеце, — крычаць, — найлепшыя!

— Што-ж гэта вы, абармоты, каля самага „*Наркодиспансеру*“ разлажыліся. Няма вам другога месца, ці што?

Даруйце, грамадзянін! Ды лепшага за гэтае месца ўва ўсім месьце ня знойдзеш. Калі на гэтым месцы не гандляваць, дык дзе гандляваць!..

Узяў дзьве пачкі папіросаў...

Не далі навет дадому дайсьці, нягоднікі!

Дык вось і куру я ізноў, быццам конь які...



... Тузіны са два гандляроў з папіросамі...

*З радавага гумару* Я. М.

*) „Наркодиспансер“ — Амбуляторыя для лячэньня алькаголікаў, наркотыкаў і да гэт. падобн. *Рэд.*

## XX Век.

XX век — залаты век  
Навукаў, тэхнікі, мастацтва;  
Царом прыроды — чалавек,  
Прад ім усё яе багацтва.

XX век — залаты век  
Газэтных спрэчак, перасудаў;  
Палітык — кожны чалавек,  
З ідэяй нейкай ўсе прыблуды.

XX век — залаты век  
Зладзеяў розных, спэкулянтаў;  
Прад чалавекам чалавек —  
Народных роль бярэ амантаў.

XX век — залаты век  
Збраеньняў новых, нячуваных;  
На чалавека чалавек  
Нож гострыць з вечара да рана.

XX век — залаты век!  
Узрост сьвядомасьці працоўных;  
„Працуе хто, — той чалавек“,  
Вось—лёзунг наш самы галоўны.

*Чэх.*

## „ЗАМАЛЬДАВАЎ“.

У мястэчку К. каля Наваградку паліцыянт „мальдуе“ свайму камэнданту:

— *Мэльдуен послушне*, што мінулай ночы злавілі мы вельмі небясьпечнага „грамадоўца“!

— Малайцы! А дзе-ж ён ёсьць? Прывядзеце яго сюды!

— *Мэльдуен*, што ўцёк...

*З.*

## ЦЯЖКАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

— Ну і што цяцер за жыцьцё? Людзі цяпер ня жывуць, а мучацца. Даўней ідзе чалавек, дык вы бачыце, што гэта чалавек. А цяпер...

— Э, лепш і не кажэце! Даўней мая жонка мела грудзі. Гэта былі ня грудзі, а вялікія пуховыя падушкі! Вось цяпер паглядзеце, што засталося ад гэтых падушак?

— Ну, а што?

— Адны навалачкі... *Я. М.*

# Народны гумар.

## ЖОНКА МУЖА ПАХАВАЛА.

Жонка мужа пахавала.
Плача, енчыць: „Ой прапала!“
Рукі ломіць і галосіць,
Сьмерці ў Бога сабе просіць.

Ні ахвоты да тэй ежы,
Ні увагі да адзежы...
Плача жонка, нават млее,
З кожным днём усё худзее,

Ў хаце спаць адна баіцца,
Бо нябожчык ёй мраіцца...
І, як ночанька настане,
Жонкі ў хаце ані званьня.

Нешта з тыдзень жонка ныла,
Да суседа ўсё хадзіла...
Потым стаў сусед прыходзіць,
Страхі з хаты ёй выводзіць...

Сорак дзён як праляцела,
Жонка жыць ужо хацела,
Бо нябожчыка ні сьледу...
„Дзякуй“ любаму суседу!

*Улад.—Ініцкі.*

## ПАНСКІЯ ДЗЕЦІ.

— Татачка, а ці яблычкі зялёныя?
— Зялёныя, сынок.
— А ці яны ня скачуць?
— Не.
— І бяз ног?
— Ну, разумеецца, бяз ног.
— Ну, тагды, значыць, я зьеў жабу.

*Я. М.*

## ПАЛЯЎНІЧЫ.

Пан варочаецца з паляваньня. Жонка пытаецца:
— Ці забіў што?
— Але, забіў.
— Дык нясі ў кухню, хай кухар усмажа.
— Калі я забіў уласнага сабаку.

## У БЕЛАРУСКАЙ КНІГАРНІ.

— Прашу ласкава прыняць мяне на службу ў кнігарню.
— Нашы працаўнікі цяпер самі ўвесь дзень зяваюць бяз працы.
— Дык звольніце іх, а прымеце мяне.

## НА ДВОХ...

Селянін прыходзіць да доктара. Доктар яго агледзіў і вымагае заплаты. Селянін дае пяць злотых.
— Выбачайце,— кажа доктар,— каму вы даеце гэтыя пяць злотых, мне, ці служанцы?!
— Мне, здаецца, паночку, што вам хопіць на двох.

*Я. М.*

## ДАРОГА НА „ЛУКІШКІ“.

Малы Сымонка чытае „Маланку“ і пытаецца ў бацькі — б. настаўніка:
— Татачка, што гэта такое сатыра?
— А гэта ў цяперашніх часох найхутчэйшая дарога на „Лукішкі“.

## У ПАБОЖНАЙ ПАНІ.

Пані, убачыўшы, што яе служанка, у вольным часе, чытае кніжку, накінулася на яе:
— А гэта, што? Ты кніжкі чытаеш! Да чаго той пракляты бальшавізм пашырыўся: — служанка кніжкі чытае, а я, яе пані, хутка мушу ўласнымі рукамі талеркі выцірацы!..

*Д.*



## Кахала Міхала.

Сялянка кахала,
З фальварку Міхала,
Пяяла, скакала...
І нос задзірала.

У таго-ж Міхала
Гэктараў ня мала,
І сыраў і сала...
І нос задзірала.

Сялянка ў Міхала
Нраз балявала,
Было й... начавала...
І нос задзірала.

Што толечкі знала
У крамах купляла,
Сябе прыбірала...
І нос задзірала,

Нічога ня знала —
Ўсё твар малявала.
У грыўкі стаўляла.
І нос задзірала.

Надзею ўсю клала
На пана Міхала,
Пяяла, скакала...
І нос задзірала.

---

Пара пралятала,
Другая зьмяняла;
Сялянка злавала...
І нос апускала.

Ужо не пяяла,
Усё праклінала
І нават Міхала...
Бо зыбку шукала.

*Улад. Ініцкі.*

## СЬЛЯПЫЯ, А БАЧАЦЬ.

Двох сьляпых пры дарозе.
— Ці ня знаеш гэтага чалавека, які кінуў мне ў шапку пяць грошай?
— Не, ня знаю, бачу яго ў першы раз.

## НАРОДНЫЯ ПАГАВОРКІ.

Мікола ідзе з Раманам і знаходзіць двохзлатоўку.
— Дурны заўсёды мае шчасьце,— зайздросна кажа Раман.
— Лепш з дурным знайсьці, чым з разумным згубіць,—спакойна адказвае Мікола. *„Зиз“.*

---

**Грамадзяне!** Адміністрацыя часоп. „МАЛАНКА“ просіць усіх сваіх паважаных падпісчыкаў, якія ў прошлым нумары „МАЛАНКІ“ (20.IV № 6) адтрымалі рахункі і паштовыя пераказы, **неадкладна выслаць належны доўг. Хто гэтага ня споўніць, таму гэты нумар высылаецца апошнім.**

Урэгуляваць свой доўг гэта — абавязак кожнага сьвядомага беларуса, якому дарага роднае беларускае слова. Дык ня будзьце ворагамі „МАЛАНКІ“!

**АДМІНІСТРАЦЫЯ**

*Адрэсаваць:* Рэдакцыя „МАЛАНКА“, Вільня, Гэтманская вул. № 2.

# Зварот на Захад.




**На лекцыі „Справа нацыянальных меншасьцяў у Польшчы“.**

*Лектар*: Галоўным заданьнем нашай пал'тыкі ў справе меншасьцяў — адцягнуць іх увагу ад дзікага Усходу і зьвярнуць яе на культурны Захад. Першы пачын у гэтай справе ўжо зроблены. Беларусы ўжо знаёмяцца з дабрадзействамі культуры на Захадзе...



# НАША ПОШТА.

**Алесь Ц.**: І Вы „вершы“ пішаце?.. Кіньце, — нічога ня выйдзе! Наш кошык і бяз Вашых „твораў“ мае шмат матар'ялу.

**Мікола Шоль**: Вы, як відаць, спрытней працуеце каля сівухі і талеркі, чым каля вершаў. Дзеля прыкладу кусочак з Вашага вершу:

«Не прайшло мінутак пяць,
«Хлопцы за сталом сядзяць.
«П'юць сівуху, ці гарэлку,
«Ды парожвяць там талерку».

У канцы другога вершу Вы пішаце: „*Выбачайце, што вельмі кепска напісана, дый не чарнілам*“. Нічога, выбачаем! Кошык наш непераборлівы, — прыймае ўсё, што да яго прысылаюць. Ня толькі чарнілам, а навет мёдам напішэце, а ўсё роўна з Вашых вершаў толку ня будзе.

**Мікіта Лапаць**: Вы прыслалі нам пару слабых вершаў і пытаецеся: „*...калі заплоціце па 50 грошай за радок, дык больш вершаў прышлю*“.

Што Вы? Паўзалатоўкі за радок?! Ды гэтак Вы нас без штаноў пакінеце, а гэта нам неяк не спадручна, — усё-ж такі ў рэдакцыю часам жанчыны прыходзяць.

**Лявон Дубовы**: Вы просіце: ацаніць Вашы вершы „*з мастацкага боку*“.

Але, Вы вялікі мастак пісаць слабыя вершы.

**К. Слабы**: Хоць Вы „Слабы“ а пішаце „моцныя“ жарты, за іх п. пракурор нам і 129 арт. К. К. не пашкадуе! Нічога не падыйшло.

**Язэп Народнік**: Верш „*Як пан галовой працаваў*“ будзе зьмешчаны ў наступным нумары, бо каля Вашага вершу прыдзецца і нам крыху галавай оппрацаваць. Прысылайце яшчэ, толькі старайцеся лепш апрацоўваць дома.

**Міхась Васілёк**: Што сталася з Вамі?! Хто Вам перашкаджае настроіць Вашу ліру на вясёлы тон? Ужо трэці нумар выходзе, а Вашых вясёлых, бадзёрых вершаў няма.

Чакаем!


Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:

**ВІЛЬНЯ, Гэтманская вул., № 2**

«МАЛАНКА»

ПАДПІСНАЯ ЦАНА:

на 1 год 8 злот.
„ паўгода 4 „
„ тры мес. 2 „
„ адзін м. 1 „

За граніцу: на год — 2 даляры, на паўгода—1 д. на 3 мес.—50 цэнт.